# ПА КУТКОХ ЭМІГРАЦЫІ

## НОВЫ ВЫБРЫК СЬЦЯГАТАПТАЛЬНІКАЎ

Пасьля ведамае гісторыі з таптаньнем сьцягоў міхельсдорфскія зарубежнікі надумаліся праславіцца новым выбрыкам. Інсьпіраваны імі бацькаўскі камітэт гімназіі ймя Янкі Купалы, нячувана перавышаючы свае паўнамоцтвы, абвесьціў раптам аб звальненьні дырэктара гімназіі й бальшыні настаўнікаў ды «прызначыў»новы склад ( у бальшыні зь людзей навет безь сярэдняе асьветы). Справа, зразумела, пайшла ў ІРО. Апошняе таксама пачало разьвязваць яе вельмі арыгінальна й супэрдэмакратычна — галасаваньнем бацькоў( спосаб, практыкаваны ў «найдэмакратычнейшым» СССР яшчэ за часамі г. зв. «ваеннага камунізму», але ад тых часоў навет і там адкінуты). На шчасьце аднак бальшыня бацькоў аказалася разважнейшай і за зарубежніцкіх «рэфарматараў», і за іхных супэрдэмакратычных апякуноў: у патаемным галасаваньні пад наглядам урадаўцаў ІРО пераважнай бальшысёйю (41 супраць 26) пастаноўлена захаваць гімназію поўнасьцяй у ранейшым складзе. Гэтак тымчасам новы выбрык зарубежнікаў не дайшоў да выніку (хоць яшчэ няма ведама, ці спыняцца яны на гэтым).

Лаўры чарнасоценцаў, відаць, не даюць ткі спакойна спаць міхэльсдорфскім малойчыкам. Бо пры гэтым так і ўспамінаецца ведамы герой Салтыкова-Шчэдрына Угрум-Бурчэеў (зь «Гісторыі гораду Глупава»), які «въехал в город, сжег гимназию и упразднил наукі». Адно што яшчэ сьцягоў не таптаў...

**Сусед.**

## НОВАЯ СКАЎЦКАЯ АДЗІНКА

У першай палавіне ліпеня сёлета Галоўнае Кіравецтва Беларускіх Скаутаў зарганізавала новыя скаўцкія адзінкі ў Маервіку каля Фленсбургу. Пачалі ўжо актыўныя заняткі зьвяз імя Кастуся Каліноўскага й Грамада Адважных Ваўчанятаў. Неўзабаве адбудзецца першая скаўцкая ўрачыстасьць моладзі — складаньне прырачэньня, да чаго штодня рыхтуецца моладзь. Гэтымі дзьвюма адзінкамі наш скаўтынг павялічыў свае рады маладых змагароў за вялікія скаўцкія й нашыя нацыянальныя ідэалы. Пажадаем скаўцкай арганізацыі й ейным маладым сябром як найлепшых удачаў на славу нашае Бацькаўшчыны!

## ПАПРАЎКА

У № 21 «Бацькаўшчыны» ў карэспандэнцыі аб другім зьезьдзе «Аб'яднаньня Беларускіх Лекараў на Чужыне» ў Марбургу сп. Я Лаўрыновіч падаў памылкова прозьвішча сакратара. На зьезьдзе за сакратара «Аб'яднаньня» быў выбраны ня др. Мілянцэвіч, а др. Анатоль Бразоўскі.

## ДАРОГУ ЗА АКІЯН І БЕЛАРУСАМ

27-га ліпеня сёлета заступнік Старшыні Беларускага Нацыянальнага Камітэту-Цэнтральнага Прадстаўніцтва й Старшыня Камітэту на Амэрыканскую зону наведалі Галоўную Гасподу ІРО ў Бад-Кісынгене й зьлажылі мэмар'ял аўстралійскай місіі ў справе нашых пажаданьняў на выезд у Аўстралію. Другі мэмар'ял ськіраваны ў Вашынгтон (з копіяй у Галоўную Гасподу ІРО ў Бад-Кісынгене) з пажаданьнямі й просьбамі ў справе выезду беларускіх ДП у Амэрыку.

## ДА ЭМІГРАЦЫІ Ў АМЭРЫКУ

ІРО дало агульныя выясьненьні што да эміграцыі ў Амэрыку.

Паводля выясьненьняў, у ЗША будуць прынятыя ДП, што адпавядаюць наступным умовам:

1) пражываньне ў заходніх зонах Нямеччыны, Аўстрыі, а таксама ў заходніх сэктарах Бэрліну да 22 сьнежня 1945 г. і быцьцё на гэтых-жа тэрыторыях яшчэ 1 студзеня 1948 г.

2) адпаведнасьць іміграцыйным вымаганьням што да здароўя прафесійных кваліфікацыяў, запэўненасьць працы й памешканьня ў ЗША

3) адпаведнасьць сем'яў умовам здароўя й іншым агульным умовам

4) на 40 % усіх месцаў маюць права перамяшчэнцы з балтыцкіх краёў і з-за лініі Керзона

5) пяршынство маюць землятобы й землятобскія працаўнікі, далей будаўнічыя працаўнікі, тэкстыльныя спэцыялістыя, а таксама яшчэ некаторыя групы спэцыялістых, якія будуць устаноўленыя пасьля; прывілеямі карыстаюцца таксама сваякі (да 3-е ступені) амэрыканскіх грамадзянаў і асобаў, правамоцна аселых у Амэрыцы

6) далейшае пяршынство належыцца былым вайсковым, што змагаліся па баку ЗША; лягерныя жыхары маюць пяршынство перад тымі, што жывуць прыватна — дапушчэньне апошніх будзе залежыць ад пастановы амэрыканскіх іміграцыйных прадстаўнікоў

7) Не дапушчаюцца прыхільнікі камунізму або фашызму, маральнасьць кандыдатаў на выезд будзе падрабязна дасьледвацца

8) справа выезду «Фольксдойчам» будзе ўрэгулявана адмысловым распараджэньнем.

**Зацемка.** Асобы, якія пакінулі лягер пасьля 1 студзеня 1948 г., будуць разглядацца, як асобы. якія былі ў гэтым часе ў лягеры. Дакладныя дадзеныя што да далейшых спэцыяльнасьцяў будуць апублікаваныя асобна.

# ЦАРКОЎНЫЯ СПРАВЫ

## ПАСТАНОВА ЧАСОВАГА КІРАВЕЦТВА БЕЛАРУСКАЕ ПРАВАСЛАУНАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ЦАРКВЫ

**Справа:** «Пасланьне» Мітрапаліта Панцялеймана й «Выясьненьні з канцылярыі Беларускай Мітраполіі» Тырсгайм, 8. 7. 48.

**Пастанова: ЗАКЛІК ДА ЎСІХ ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ І ЎСЯГО БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗТВА.**

Часовае Кіравецтва Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы гэтым заклікае ўсіх беларускіх вернікаў з пакораю прыняць выпыт Божы ў постаці гэтых двух пісаньняў («Пасланьне» й «Выясьненьні») і з тым большай пэўнасьцяй трываць на адзінаправільным шляху чыстае незалежнасьці Беларускае Праваслаўнае Царквы, роўнаапостальскага носьбіта праваслаўнае веры ў беларускім народзе. Заклікаем устрымацца ад усякіх адказаў і адпісваньня. Усемагутны Бог бачыць і, калі трэба будзе, Сам адкажа й напіша сваё магутнае МАНЭ ТЭКЭЛ ФАРЭС. Верце й малецеся аб дараваньні вінаў тым, што нападаюць на вас. Памятайце словы Хрыстовы: **Любі бліжняга твайго,** малецеся малітвай Господавай «Войча наш»: **адпусьці даўгі нашыя, як і мы адпушчаем вінаватым нам.** Прыпомніце з запаветаў Балажэнства: **БАЛАЖЭННЫЯ, КАЛІ ПАНОСЯЦЬ ВАМ І СКАЖУЦЬ УСЯКІ ГУК ДРЭННЫ НА ВАС ДЗЕЛЯ МЯНЕ. РАДУЙЦЕСЯ Й ВЕСЯЛЕЦЕСЯ, УЗНАГАРОДА БО ВАШАЯ ВЯЛІКАЯ НА НЯБЁСАХ.**

**ЧАСОВАЕ КІРАВЕЦТВА БПАЦ.**

## АД ЧАСОВАГА КІРАВЕЦТВА БПА ЦАРКВЫ

Падаецца да ведама ўсіх айцоў-сьвятароў БПА Царквы **абавязваючае памінаньне:** «Сьвяцейшыя Праваслаўныя Васточныя Патрыярхі і Праасьвяшчэньнейшага Епіскапа Сергія і ўсе Праваслаўныя Мітрапаліты, Архіепіскапы й Епіскапы аўтакефальных цэркваў».

Часовае Кіравецтва БПАЦ гэтым выясьняе **ўсім духоўнікам, што прыслалі сваё жаданьне служэньня й належаньня да Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы:** а) усе духаўнікі, што падалі заявы ў ЧК БПАЦ, узятыя на лік, б) сьвятары, што падлягаюць іншым аўтакефальным цэрквам, да часу атрыманьня адпускное ад сваіх цэркваў ня могуць быць прынятыя на выконваньне сьвятарскіх абавязкаў у БПАЦ.Выясьняем, што гэтак зв. Расейская Зарубежная Царква ня мае кананічнасьці аўтакефальнае царквы й таму адпускное не патрабуецца. Не вымагаецца адпускное й ад Расейскай Аўтакефальнай Царквы дзеля тэхнічнае немагчымасьці атрымаць такую з СССР, в) просьба да ўсіх айцоў-настаяцеляў рыхтаваць кандыдатаў у духавенства й прадстаўляць Часоваму Кіравецтву БП АЦ, г) усе беларускія духаўнікі, што згубілі дакумэнты й царкоўна-служэбныя рэчы, могуць устанавіць і атрымаць такія ў ЧК БПАЦ.

---

**Выйшаў з друку**

**«САКАВІК»**

**№ 2 (3) за 1948г.**

У нумары: вершы Алеся Салаўя, Рыгора Крушыны, Натальлі Арсеньневае, Уладзімера Клішэвіча, Масея Сяднёва, проза Максіма Багдановіча, Ніны Змагаркі, С Юстапчыка, Сьвітазянкі, артыкулы У. Глыбіннага, прф. др. А. Бэра, С.Д., таксама пераклады вершаў М. Багдановіча панямецку.

**Цана І м. 20 фэн.**

**Выпісваць праз адміністрацыю «Бацькаўшчыны».**

## У ЧАСОВЫМ КІРАВЕЦТВЕ БЕЛАРУСКАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ЦАРКВЫ

**Сьвятарскія курсы.** Дзеля грашовых цяжкасьцяў і надасланьня вялікага ліку заяваў ад кандыдатаў на курс сьвятароў — псаломшчыкаў, паведамляем, што пачатыя ходаньні аб адчыненьні наступных курсаў у амэрыканскай і ангельскай зонах. Таму ўсіх далёкіх канкандыдатаў просім пачакаць, а тымчасам вучыцца ўдома чытаць па царкоўна-славянску й вывучаць царкоўны абыход. Гэта палегчыць барджджэй кончыць курс і дасягнуць пажаданае ступені. Кажны духаўнік павінен знаць «служэбнік», які можна атрымаць у кажным царкоўна-кніжным выдавецтве. Веды дагматычныя, гісторыя Царквы й г. д будуць выкладацца на курсах, як і будуць выданыя адмысловымі запіскамі для самавукаў.

**Жыровіцкае Брацтва.** Надовечы Уладыка Сергі зацьвердзіў Брацтва Жыровіцкага манастыра й вызначыў прат. Сьцяпана Войтанку на апякуна й старшыню Брацтва. Усе справы Жыровіцкага Брацтва вядзе братчык Аляксандра Асіпчык (13а, Windischbergerdorf bei Cham, Weißruthen. DP-Lager.) Пажаданае засноўваньне аддзелаў Брацтва пры беларускіх прыходах на эміграцыі.

**Выдавецтва царкоўнае літаратуры.** У сувязі з надыходжаньнем прапановаў на выдаваньне царкоўных і рэлігійных кнігаў, Кіравецтва БПА Царквы паведамляе, што ў блізкім часе будзе створана пры Кіравецтве Царкоўна-Кніжны Беларускі Праваслаўны Нагляд, які будзе пераглядаць рэлігійныя праваслаўныя выдавецтвы й прадстаўляць да дазволу Галаве БПА Царквы.

**Узнагароды сьвятароў.** Надовечы Уладыка Сергі ўзнагародзіў чароднымі ўзнагародамі сьвятароў Хведара Данілюка й Сьцяпана Войтанку.

---

# ШУКАЮЦЬ...

Мужа **Барыса Ліхача,** нар. 1915 г. у Жыровіцах, Слонімскага пав. — Агата Ліхач. Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

**Жонку й сына** — Антановіч Антон. Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

**Салохіна** Рамана,нар. 15. 7. 1923, у часе вайны жыў у Oberschlesien-Салохін Міхал. Весткі на адрыс: Kufstein Lager IRO in Tirol (Österreich).

Брата **Грыцука Мікалая,** у часе вайны жыў: Hockenheim Baden, Luisenstraße 44, Fuchs zum Fuchsbau Гуз Павал з маткаю Варвараю й братам Шурам (Аўстрыя). Весткі на адмістрацыю «Бацькаўшчыны.»

**Знаёмых з Палескае акругі, Васілевіцкага раёну** — Рагаўцоў І. Ф. з лугасу «Ведрычы». Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

Брата **Шаграя Мікалая,** нар. 1926, Магілеўскай акругі — сястра Марыя Шпакоўская. Весткі на адрыс: Passau, DP-Lager Mayerhof-Kaserne.

**Адамовічаў Флёрку** (нар. 1924 г.) і **Антося** (нар. 1926) з Бабінкі, Бярэзінскага раёну. Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

Маці **Дуброўскую** Аляксандру й сёстраў Люсю й Вольгу — Сяргей. Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

**Караленку** Міколу з жонкай Ядзьвігай і дачушкай Славай — кумы й сябры. Усіх, хто ведаў-бы пра іхнае месцазнаходжаньне — просьба паведаміць **на адрыс рэдакцыі «Бацькаўшчыны».**

# З БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

## З «ОБШЧЭПАНЯТНАЙ» УСЮДЫ ЛЁГКА...

Амэрыканская расейская газэта «Новое Русское Слово» у нумары ад 15. 4. 1948, у зацемцы свайго собскага карэспандэнта Лява Пятрова з Канады падае, між іншага, цікавы для нас мамэнт, які выплыў на адным з «растлумачальных» дакладаў савецкіх прадстаўнікоў у Канадзе, прысьвечаным агітацыі за прыйманьне савецкага грамадзянства й рэпатрыяцыю ў СССР.

Карэспандэнт, між іншага, паставіў такое пытаньне (падаём даслоўна ў ягоным фармуляваньні):

«Бальшыня тут зыбраных Беларусы. Шмат зь іх хацелі-б зьвярнуцца на Бацькаўшчыну, у Беларускую рэспубліку, але ўсе мы гаворым, чытаем, пішам і вучымся парасейску. Адзін час у Амэрыцы й Канадзе спрабавалі выдаваць газэту ў беларускай мове, але, як відаць, самыя Беларусы ад гэтага адмовіліся (? Рэд.), і цяпер тут школаў і друку ў беларускай мове няма. Ці ня будзе гэта памылка, ці ня трапяць усе, што вяртаюцца на Бацькаўшчыну, у Беларусь бязь веданьня свае роднае мовы й мовы рэспублікі?»

Адказ быў даслоўна наступны:

«Чалавеку, які ведае толькі беларускую мову й выпадкам апыніцца ў Украінскай Рэспубліцы, даводзіцца дазнаваць шмат цяжкасьцяў, у цэнтральнай Расеі ён стрэне іх яшчэ больш, а калі трапіць на Каўказ ды ў іншыя савецкія рэспублікі, дык напэўна там загубіцца. Зусім іншая рэч з расейскай моваю. Зь ёй усюды лёгка...».

## ПОЛЬСКА-ПРАВАСЛАЎНЫ БУМЭРАНГ

26. 6. сёлета радыё Варшава падало, што прадстаўнікі праваслаўнага духавенства зь Беластоку наведалі Маскоўскага Патрыярха й прасілі яго камуністычную сьвятасьць дазволіць узнавіць дзеяньне Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Патрыярх Маскоўскі паставіўся да гэтае справы вельмі прыхільна, сьцьвярджаючы факт існаваньня й прызнаньня Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Яго камуністычная эксцэленцыя абяцаў неўзабаве высьвяціць новых епіскапаў для Беластоку і Брэславу.

Такім парадкам, пачатая польскімі шавіністымі палёнізацыя Беларусаў і Ўкраінцаў праз Праваслаўную Царкву, як бумэранг, варочаецца назад і ўдарае ў інтарэсы Польшчы. Гэтым разам будзе служыць камуністычнай Маскве дзеля разьяданьня грамадзка-рэлігійнага жыцьця сярод самых Палякоў.

Не капай другому ямку...

## КАНКУРЭНЦЫЯ БЕЛАСТОКУ

Радыё «Волга» падало, што ў Берасьці будуецца вялікі ткацкі камбінат «Беларусь», які будзе перарабляць ткацкую сыравіну нашых земляў. Канкурэнцыю гэтую можа адчуць Беласток, будзь што будзь адрэзаны сяньня ад сваіх прыродных базаў сыравіны.

## СЛОЎНІКІ

Акадэмія Навукаў БССР выпушчае першы беларускі артаграфічны слоўнік. Рыхтуецца да друку вялікі расейска-беларускі слоўнік (чытай: расейска-расейскі ў беларускай транскрыпцыі зь і ды ў — Рэд.).

---

# ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

**З адміністрацыі газэты «Бацькаўшчыны» можна выпісаць КНІЖКІ:**

| | |
|---|---|
| Р. Крушына — **Лебедзь Чорная** (вершы) . | 1 М.— |
| С. Юстапчык — **Каханы горад** (проза) . . | 1 М. 50 ф. |
| А. Радкевіч — **Беларускі лемантар** . . . | 2 М.— |
| І. Г-кі — **Помнікі старажытнасьці** (ратат.) | 1 М.— |
| І. Г-кі — **Малюнкі мінулага** (ратата́р) . . | 2 М.— |
| Н. Недасек — **1918—1948** . . . . . . . | —.30 ф. |
| **Белая кніга,** вып. І. . . . . . . . | —.30 ф. |
| **«Сакавік»** (часапіс), № 1 (2) . . . . . . | 2 М.— |

**Выйшаў з друку**
зборнік вершаў
**Алеся Салаўя**
**СІЛА ГНЕВУ**
**Цана 1 марка.**
Выпісаць можна праз адміністрацыю «Бацькаўшчына».

## АДРАСЫ КАМІТЭТАЎ

Падаём адрасы зонных Беларускіх Нацыянальных Камітэтаў, куды трэба зварачацца ўва ўсіх справах эміграцыі, сьцьверджаньня й выпраўленьня нацыянальнае прыналежнасьці, грамадзкага ападаткаваньня й ін.

1. Беларускі Камітэт на Амэрыканскую Зону Нямеччыны (адрыс: Weißruthenisches Komitee, (13b), Osterhofen Ndb).

2. Беларускі Камітэт на Ангельскую Зону Нямеччыны (адрыс: Weißruthenisches Komitee, (23), Oldenburg (Old) Ohmstede Rennplatz, DP-Camp 224-F, Райкой М.).

3. Беларускае Дабрадзейнае Згуртаваньне на Францускую Зону Нямеччыны (адрыс: Weißruthenische Vereinigung, (14b), Saulgau, Kaiserstraße 33, dr. Vojtenka V.).

У паасобных беларускіх лягерах і нацыянальных групах ападаткаваньне будуць спаганяць упаўнаважаныя гэтымі Камітэтамі асобы.

## БЕЛАРУСЫ Ў КАНАДЗЕ

**могуць атрымаць газэту «Бацькаўшчына» ў спадара Pituška Joseph, General Delivery,**
Ottawa Ontario, Canada.
Падпіска каштуе 2 дал. на паўгоду,

---

Whiteruthenian Weekly „The Fatherland"
Authorized by EUCOM Hg. Civil Affairs Division, 11 March 48, N UNDP 225. Circulation 4000 copies.
Administration — (13b) Osterhofen, Ndby., Whiteruthenian D. P. Camp.
Printed by: Hils & Maier, Dingolfing, Bruckstraße 99.